

Тыдзень
Беларуская тэматыка на варштаце польскіх вучоных

Універсітэт дзядзькі Арсеня

200 дзён „карцэру"

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (407) | ГОД VIII | 15 СНЕЖНЯ 1963 г. | ЦАНА 60 ГР

## БГКТ Зблізку

## НАРАДЫ Ў АДДЗЕЛАХ

Падняць на вышэйшы ўзровень дзейнасць Таварыства згодна з пастановамі XIII Пленума ЦК ПАРП і II пленума ГП БГКТ — вось мэта нарад актыву ў аддзелах. На гэтых нарадах абмяркоўваюцца ўсе хвалюючыя справы БГКТ у паасобных паветах.

**У Саколцы.** Як у дакладзе, які прачытала член праўлення Оля Паўлючук, так і ў дыскусіі многа ўвагі было прысвечана школьніцтву.

Дыскутанты звярнулі ўвагу на невыкарыстоўванне святліц для культурна - асветнай дзейнасці, на павелічэнне колькасці падпісчыкаў на «Ніву», на актывізацыю вясковых гурткоў БГКТ, на супрацоўніцтва БГКТ з іншымі арганізацыямі. У нарадзе ўзяло ўдзел больш 40 чалавек, у тым ліку і прадстаўнікі павятовых партыйных і адміністрацыйных улад.

**У Міхалове.** Добра прайшла нарада беластоцкага павятовага аддзела БГКТ у Міхалове. У ёй узяло ўдзел таксама больш 40 асоб. Асабліва трэба падкрэсліць, што праўленне аддзела ў апошні час папоўнілася мясцовым актывам, і што цікава — гэта людзі старэйшага пакалення. Самымі ахвярнымі актывістамі, якія выязджаюць у гурткі, з'яўляюцца грамадзяне: Назарка, Палоцкая, Чэшаль, Палоцкі і іншыя. У ажыўленай дыскусіі многа гаварыла-

(Працяг на стар. 3)

## СЛЕДАМ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ МАГЧЫМАСЦЕЙ

# Больш зямлі пад добрыя ўраджаі

**(гавораць праф. А. МУСЯРОВІЧ і праф. А. ЛІСТОЎСКІ).**

Ацэньваючы 20 мільёнаў гектараў зямельных угоддзяў, глебазнаўцы прынялі падзел іх на 6 класаў. Але гэты падзел, на думку праф. Мусяровіча, вельмі агульны з пункту гледжання сельскагаспадарчай практыкі. Выражаючы ступень прыдатнасці глебы пад тыя ці іншыя культуры, той самы клас заключае ў сабе розныя тыпы глебы, не гаворачы ўжо аб іх розных фізіка-хімічных якасцях. А глеба, апрача гэтага, можа яшчэ змяняцца пад уплывам такіх дзейнікаў, як мацярынская парода, форма паверхні, вільготнасць, тэмпература, расліннасць ці спосабы апрацоўкі і ўгнаенні.

Пазнанне ўсіх гэтых дзейнікаў і дынамікі працэсаў, якія адбываюцца ў глебе, мае вельмі вялікае значэнне ў сельскагаспадарчай практыцы. Падрабязная характарыстыка глебы аблегчыць правільны падбор расліны, адпаведную апрацоўку глебы і ўгнаенні.

Па ініцыятыве ЮНГ, побач з класіфікацыяй глебы, у многіх паветах складаюцца глебавыя карты ў маштабе 1:25.000, якія вельмі дапамагаюць пры фармаванні раёнаў, акрэсленні патрэбы ў угнаеннях, але, на жаль, яшчэ малыя, каб можна было імі карыстацца ў кожнай гаспадарцы. Большая частка зямель, аднак, патрабуе яшчэ падрабязных, некалькі разоў паўторных даследванняў.

Каб дабіцца высокіх ураджаяў, глебазнаўцы маюць перад сабой яшчэ сур'ёзнае заданне: абавязкова трэба акрэсліць у глебе ўжо не адзінкі, а больш дзесятка розных мікраэлементаў. Апрача магнія і марганца трэба яшчэ выкрыць, ці ёсць у глебе солі такіх металаў, як медзь, кобальт, малібдэн, тытан, цынк і яшчэ некалькі іншых. Не менш важным з'яўляецца выясненне колькасці ў глебе трох асноўных пры ўгнаенні састаўных частак — калія, фосфару і вапны.

Прыкладам эфектаў, якія дасць комплекснае вырашэнне ўсіх гэтых спраў, можа быць гаспадарка Валіца. Рацыянальная агратэхніка, якая асноўваецца на падрабязных аналізах глебы, за 5 год змяніла глебы з жытне-бульбяных на пшанічна-бурачаныя. Гэта значыць, клас перасунуўся ўверх на дзве ступені. Такіх лёгкіх глеб у Польшчы звыш 60%. Адначасова ёсць яшчэ раёны, дзе сяляне наракаюць на слабыя ўраджаі бульбы і жыта. Доследы выказалі, што галоўнай прычынай гэтых клопатаў з'яўляюцца... багатыя глебы, на якіх добра родзяць пшаніца і буракі, а жыта часта вылягае. Такіх прыкладаў можна прывесці нямала.

### АД МІНІМУМА — ДА МАКСІМУМА

Дзяржаўная пастанова аб аграмінімуме — вельмі важны крок на шляху прагрэсу ў сельскай гаспадарцы. І асабліва таму, — гаворыць вядомы спецыяліст у галіне раслінаводства праф. А. Лістоўскі, — што на аграмінімум не патрабуем ніякіх вялікіх выдаткаў. Справа толькі ў тым, каб трэцюю частку зямель апрацоўваць старанней, чым дагэтуль. Ды яшчэ неабходна зразуменне, што селянін — гэта такая самая прафесія, як кожная іншая, і яна патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі.

Першым крокам будзе падцягненне адсталых гаспадарак да ўзроўню сярэдніх. Апрача хуткага прадукцыйнага эфекту гэта дазволіць стварыць шырэйшую базу для прагрэсу ў сельскай гаспадарцы.

Далейшы пад'ём сельскай гаспадаркі будзе абапірацца на ўсё больш шырокае прымяненне навейшых сродкаў. І так, як чытаючаму неабходна ведаць літары, так добраму гаспадару, грамадскаму аграному ці кіраўніку ПГР патрэбна дакладная глебавая дакументацыя. Вопытны селянін, вядома, шмат адгадае «на вока». Аднак нават пры вялікім вопыце, робячы «на вока», абавязкова непатрэбна будуць выкінуты тысячы тон калійных і фосфарных угнаенняў.

(Працяг на стар. 2)

# ДА САРАКАГОДДЗЯ КПЗБ

Мінула сорак год, як у канцы кастрычніка 1923 года, на першай нелегальнай канферэнцыі было вырашана стварыць Камуністычную Партыю Заходняй Беларусі.

У сувязі з гэтай знамянальнай гадавінай Інстытут гісторыі партыі пры Цэнтральным Камітэце Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі супольна з Інстытутам гісторыі партыі пры Цэнтральным Камітэце Камуністычнай Партыі Беларусі арганізаваў 26-га кастрычніка г.г. сустрэчу з былымі дзеячамі КПЗБ, пражываючымі ў Варшаве.

Шкада, што аб гэтай сустрэчы на старонках «Нівы» была змешчана толькі кароткая, паведамляючая заметка. І правільна заўважыў у сваёй заметцы (а-ся), што «гэта сустрэча мела не толькі юбілейны характар. З'яўляецца яна штуршком для доследаў гісторыкаў над устанаўленнем праўды аб Камуністычным руху ў часы санацыйнай Польшчы». Але гісторыкам трэба дапамагчы матэрыяламі. Камуністычная Партыя Польшчы, а таксама і Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі дзейнічалі нелегальна ў вельмі цяжкіх умовах тэрору і праследванняў. Таму не можа быць у архівах багатых матэрыялаў і дакументаў аб іх дзейнасці. Вайна і гітлераўская акупацыя сур'ёзна зменшылі колькасць перахоўваных дакументаў і матэрыялаў. Таму на сустрэчы кожны выступаючы звяртаў на гэту справу асаблівую ўвагу. Праф. Данішэўскі — кіраўнік Інстытуту гісторыі партыі ПАРП — самакрытычна прызнаў, што дагэтуль Інстытут вельмі мала займаўся справамі КПЗБ і прасіў усіх КПЗБ-оўцаў дапамагчы ім у збіранні матэрыялаў.

Каб правільна адтварыць гісторыю нейкай грамадскай падзеі, трэба мець многа дакладнага матэрыялу і дакументы аб гэтай падзеі. Добра, што цяпер будзе адкрыты ў Беластоку Музей рэвалюцыйнага руху, які будзе прымаць і перахоўваць матэрыялы і дакументы з часоў дзеяння КПЗБ. Таму перад усімі членамі партыі, а асабліва перад былымі

(Працяг на стар. 5)



НА ЗМЯРКАННІ

Фотаэцюд К. Леса

 




(Працяг са стар. 1)

# НАРАДЫ У АДДЗЕЛАХ

...ся аб разгортванні самадзейнасці і аб ролі ў гэтым настаўнікаў.

Усе ўдзельнікі падтрымалі заклік старшыні аддзела Янкі Азяблы аб тым, каб да Новага года кожны гурток БГКТ падрыхтаваў новую п'есу і з ёю выступіў у сваёй і суседніх вёсках.

**У Бельску.** Слабей атрымалася нарада ў Бельску. На яе не прышлі нават члены праўлення. З вясковых гурткоў прыбыло на нараду 16 асоб. Добра паказалі сябе на нарадзе прадстаўнікі гуртка БГКТ у Райках. Яны тут жа, на нарадзе, дабіліся згоды на стварэнне ў іх вёсцы бібліятэчнага пункта. Яны прапанавалі моладзі з суседніх вёсак, асабліва з Казлоў і Левак, разгарнуць культурна - асветную працу, на што маглі б дазволіць ім карыстацца райкаўскай святліцай.

Кіраўнік святліцы і чытальні ў Орлі Оля Пракапюк, — падкрэслівалася на нарадзе, — прыцягвае да мастацкага руху моладзь з вёскі Кашалі і мае ўжо сур'ёзныя поспехі. Прысутныя многа крытычных уваг унеслі ў працу інструктара ГП БГКТ тав. Карбоўскага. На нарадзе ў Бельску прысутнічаў сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк.

**М. Сваяк**

# ЛАЎРЭАТКІ КОНКУРСУ


Надзя Дзмітрук.

**Люба Гаўрылюк і Жэня Мінько.** З выгляду не сказаў бы, што гэта родныя сёстры. Толькі галасы, як у адной, так і ў другой на дзіва прыгожыя.

Нарадзіліся ў Трасцянцы, Гайнаўскага павета. Спяваць іх ніхто не вучыў. Прырода абдарыла іх гэтым талентам. Люба нейкі час працавала ў мясцовай бібліятэцы і вяла там вясковы аматарскі хор. Потым выйшла замуж.

Яе сястра, Жэня Мінько, пасля пачатковай школы пайшла вучыцца ў асноўную тэкстыльную школу ў Беластоку. Сёлета Жэня закончыла гэтую школу, атрымаўшы дыплом ткачыхі. Хоча працаваць у фастоўскім баваўняным камбінаце.

У конкурсе на найлепш выкананую беларускую песню сёстры Люба і Жэня прымалі ўдзел разам, ствараючы дасканалы жаночы дуэт. Высокім прызнаннем іх таленту з'яўляецца першая ўзнагарода. Жэня і Люба — пастаянныя чытачы «Нівы». Паведамленне аб конкурсе, якое ў свой час надрукаваў наш тыднёвік, заахвоціла сясцёр прыняць у ім удзел.


Люба Гаўрылюк і Жэня Мінько.

**Ніна Наумовіч** ніколі не выступала. Часам толькі спявала на вечарынках, калі збіраліся дзяўчаты ды хлопцы з яе роднай вёскі Крушыняны, што ў Сакольскім павеце.

Да ўдзелу ў конкурсе нагаварылі яе сябры. Ніна набралася адвагі, прыехала ў Беласток, выступіла з беларускімі песнямі і заняла другое месца ў конкурсе.


Ніна Наумовіч.

**Надзя Дзмітрук** нарадзілася ў Краснай Вёсцы, Бельскага павета. Там закончыла пачатковую школу. Нядаўна пачала працаваць у бухгалтэрыі Беластоцкага прадпрыемства гарадскога будаўніцтва. Надзя — дзяўчына энергічная і станоўчая. Вырашыла яна стаць аграномам. Вучыцца завочна ў Дайлідскім сельскагаспадарчым тэхнікуме.

Аб конкурсе даведалася, прачытаўшы паведамленні ў «Ніве». Асабліва прыгожа выконвае яна народныя частушкі. Пад сакрэтам прызналася мне, што вельмі хвалявалася, калі выступала на сцэне. Заваявала трэцяе месца.

Тэкст і фота **В. Рудчык**



# АПЕТЫТ ПРЫХОДЗІЦЬ З ЯДОЮ


Я. Гарустовіч

У Дубінах пад Гайнаўкай апрача пачатковай школы існуе таксама сельскагаспадарчая школа. Цесна стала ў старым будынку. Спатрэбілася дабудаваць яшчэ адзін, новы. Кіраўнік Яўгеній Гарустовіч звярнуўся да бацькоў з просьбай аб дапамозе грамадскім чынам. Яго актыўна падтрымаў бацькоўскі камітэт на чале з Мікалаем Кандрацюком. І так, на пачатку гарачага лета, ужо ў месяцы ліпені рушыла работа. Дабіліся грашовай дапамогі ад дзяржавы (каля сямідзесяці тысяч злотых). Дружнаму актыву гэтага было даволі. Здавалася, будынак вырасце, як грыб, якраз пад першага верасня. Ды тут пачалася бяда з усялякімі апекунамі і павятовымі памочнікамі. Такім апекуном дубінскай школы з'яўляецца гайнаўскі ГС, які забажыўся расстарацца дзве тоны вапны — зрэшты, не за дарма, не. Вёз ГС вапну, вёз і ніяк не змог давезці. Добра яшчэ, што хоць грошы звярнуў. Будова моцна зацягнулася. Вапну дубінцы раздабылі ў іншым месцы, а мясцовы сельскагаспадарчы гурток і суседняя прадукцыйная спулдзельня ў вёсцы Бельшчына не пашкадавалі сваіх трактараў для супольнай справы. Вазілі ўсё, што трэба, а актывісты бацькоўскага камітэтам не пакладалі рук, працавалі з усіх сіл не толькі тады, калі мелі час. Раз трэба, значыць, трэба.

Вядома, найбольш даводзілася турбавацца самому кіраўніку Я. Гарустовічу: туды паедзь, з тым пагавары, тое дагледзь. Прытым, часта ён нароўні з другімі працаваў пры будове. Нарэшце, усюды было аб'езджана, з усімі абгаворана, усё дагледжана. Новенькі будынак прыемна радуе вока, аж, здаецца, весялей смяюцца дзеці на перапынку.

Кіраўніка цяпер мучыць адно: патрэбны будынак для школьных варштатаў. Што ж, апетыт прыходзіць з ядою... Мы са свайго боку не падвядзем і апішам аб... адкрыцці новых школьных варштатаў у Дубінах, што пад Гайнаўкаю.

**А. Анташэвіч**


На здымку: новы школьны будынак. фота — аўтара

---

гаварыць яму ці не, але ўсё ж вырашыў. — Калі пойдзеш вярсты на дзве бокам ад чыгункі, то іх быццам і не будзе. Але яны ж што тваё клапы — па ўсіх сценах поўзаюць. — Стары памаўчаў. — А партызан не баішся?

— Не, дзядуля, не баюся.

— Тады ідзі ад чыгункі бокам вярсты на чатыры.

— Дзякую, дзядуля! — Рудзін устаў. — Як зваць цябе?

— Сцяпан, а ўсе навокал завуць мяне Ведзьмаком. — Ён ціха ўсміхнуўся. — Гэта за тое, што я на балоце жыву.

Рудзін пайшоў, як раіў стары. Пад нагамі паранейшаму чаўкала раскіслая зямля, але ісці цяпер было лягчэй; гэта, напэўна, таму, што пасля сустрэчы са старым на душы ў яго стала крыху святлей...

— Эй, ану, стой! — загадаў голас з цемры. — Рукі, рукі падымі.

Рудзін спыніўся і падняў рукі.

Ад карча адлучылася і наблізілася няясная ў цемры чалавечая фігура.

— Хто такі?

— Савецкі чалавек.

— Савецкімі ўсе завуцца. Адказвай: хто, адкуль і куды ідзеш?

— Гэта доўга расказваць. Калі ты партызан, вядзі мяне да камандзіра.

— Ідзі вось туды і не аглядвайся.

Хутка пачаўся лес. Невядома адкуль каля Ру-

46

дзіна з'явіліся яшчэ двое людзей, а калі яны ўглыбіліся ў лес кіламетраў на тры, іх спыніў вартаўнік. Адзін з суправаджаючых Рудзіна сказаў вартаўніку пароль, і яны пайшлі далей. Неўзабаве яго ўвялі ў цесную зямлянку, у якой сядзелі і пілі чай два барадачы. Адзін з іх нездаволена паставіў на стол недапіты кубак.

— Мне сказалі, што ты прасіў вясці цябе да мяне. Чаго табе трэба?

— Калі вы камандзір атрада, я хацеў бы гаварыць з вамі з вока на вока.

— Гэта ты кінь, ад камісара атрада я сакрэціцца не буду. Гавары, хто ты і што табе трэба.

— Хай выйдзе баец, — сказаў Рудзін, агледзеўшыся на партызана, які яго прывёў.

— Ну добра. Пятрок, выйдзі на хвілінку... Ну, я слухаю.

— Вы звязаны з таварышам Аляксеем? — спытаў Рудзін.

Барадачы глядзелі на яго непарушна.

— А што?

— Я прасіў бы перадаць яму радыёграму, якую я напішу.

Камісар выцягнуў з шуфляды ліст паперы і перадаў яго Рудзіну.

— Пішы!

Рудзін напісаў: «Паведаміце Маркаву, што са мною здарылася ўскладненне, я быў адпраўлены з эшалонам палонных. Уцёк. Цяпер знаходжуся ў...

47

— тут Рудзін зрабіў пропуск. — Зноў выходжу на папярэдні цэль».

— Самі ўстаўце, у каго я знаходжуся...

Барадачы прачыталі напісанае Рудзіным, пераглянуліся. Памаўчалі. Камандзір атрада ўстаў.

— Добра, зараз перадам, але да атрымання адказу ты застанешся тут.

— З прыемнасцю, — усміхнуўся Рудзін.

Камандзір выйшаў з зямлянкі, камісар запрапанаваў Рудзіну паесці.

— Не адмовіўся б. За двое сутак я з'еў толькі кавалак каменнага пляцка, — сказаў Рудзін.

— У Ведзьмака? — усміхнуўся камісар.

— У яго.

— Не здзіўляйцеся. Калі вы былі ў яго, там былі і нашы людзі.

— Добрая работа, — рассмяяўся Рудзін.

Рудзін яшчэ не паспеў паесці, як радыст прынёс адказ на радыёграму:

«Ваша паведамленне перададзена Маркаву. Заставайцеся ў атрадзе да атрымання ўказанняў ад вашай базы, якія мы перадамо вам неадкладна па атрыманні».

І яшчэ адна радыёграма адрасавалася камандзіру атрада Нагорнаму:

«Знаходзячамуся ў вас чалавеку акажыце поўны давер і неабходную дапамогу. Аляксей».

**Працяг за тыдзень**

48



 

